ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 132 (5314)
Субота, 17 лістапада 2001 года
Кошт у розніцу — 83 руб.

ПТА: новыя грані развіцця

## Дыпламаты... у каледжы

***Яшчэ б учора гэтую акцыю назвалі адметнай альбо ўвогуле неверагоднай. І сапраўды, немагчыма было ўявіць, што нашымі прафтэхустановамі зацікавіцца дыпламатычны корпус.***

***Але сёння - гэта ўжо прыкмета часу, якая яскрава адлюстроўвае сучасны ўзровень прафтэхадукацыі, яе высокі прэстыж.***

***Цыкл сустрэч дыпламатаў з дзеячамі навукі, культуры і адукацыі арганізаваны Міністэрствам замежных спраў і непасрэдна Галоўным упраўленнем па абслугоўванні дыпламатычнага корпуса і афіцыйных дэлегацый "Дыпсервіс".***

***Прафтэхсістэму сталіцы прадстаўляла ў гэты знамянальны дзень вядучая ўстанова горада - Мінскі прафесійна-тэхнічны каледж электронікі.***

За круглым сталом пасяджэння сабраліся дыпламаты з 15 краін свету, супрацоўнікі "Дыпсервіса", кіраўнікі навукова-вытворчага аб'яднання "Інтэграл", упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама, навучальнай установы.

З цікавасцю было ўспрынята гасцямі выступленне начальніка ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама Міхаіла Ціцянкова, які адлюстраваў агульную карціну развіцця сталічнай адукацыі характэрнымі лічбамі і фактамі. Як зазначыў выступоўца, эканамічныя цяжкасці не прыпынілі і не разбурылі гэтую важнейшую галіну. Сёння адукацыя развіваецца ў стабільным рэчышчы, і ёй характэрны новыя кірункі дзейнасці.

Сталічная адукацыйная сістэма папаўняецца штогод новымі аб'ектамі, і сёння яна складаецца з 240 школ, 450 дзіцячых садкоў, 31 прафтэхустановы.

У галіне адукацыі працуюць 42 тысячы чалавек, у тым ліку на настаўніцкай пасадзе - 32 тысячы.

Пра якасць адукацыі сведчыць той факт, што сёлета студэнтамі ВНУ сталі амаль 60 працэнтаў выпускнікоў сталічных школ. Адметна і тое, што ўпраўленне адукацыі Мінгарвыканкама працуе па 174 адукацыйных кірунках, і геаграфія супрацоўніцтва не мае межаў. Наладжаны цесныя кантакты па пытаннях адукацыйнага развіцця з Расіяй, Малдовай, Украінай, краінамі Прыбалтыкі. З гарадамі-пабрацімамі Мінска вядзецца супрацоўніцтва па лініі міжнароднага дзіцячага турызму. Новыя маршруты ўжо скарысталі сотні юных мінчукоў.

Асноўная ўвага прысутных была засяроджана на развіцці ў горадзе прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Яе сістэма налічвае сёння 31 навучальную ўстанову рознага тыпу і профілю. Гэта шэсць прафесійна-тэхнічных каледжаў, два вышэйшыя прафесійныя вучылішчы, тры цэнтры прафесійнай адукацыі і дваццаць прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, у якіх навучаецца больш за 20 тысяч падлеткаў.

Характэрна і тое, што прафтэхсістэма выконвае не толькі адукацыйную, а і сацыяльную функцыю. У яе ўстановах рабочую прафесію могуць атрымаць дзеці-сіроты, інваліды, дзеці з асаблівасцямі разумовага і фізічнага развіцця. А ўвогуле ва ўстановах ПТА можна набыць 149 прафесій, 83 з якіх з'яўляюцца інтэграванымі.

Як зазначыў намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама Уладзімір Савасценя, адметнай рысай развіцця прафтэхадукацыі Мінска з'яўляецца дагаворная сістэма з прадпрыемствамі і арганізацыямі горада.

Менавіта яна, а таксама рэалізацыя пастановы Урада аб прадастаўленні выпускніку першага рабочага месца спрыяюць высокаму ўзроўню працаўладкавання маладых спецыялістаў.

Дыпламаты пазнаёміліся з паняццем "базавае прадпрыемства". Такім з'яўляецца для ПТК электронікі ўжо на працягу 35 гадоў навукова-вытворчае аб'яднанне "Інтэграл".

Пытанню кадравай палітыкі было прысвечана выступленне начальніка кадравай службы гэтага аб'яднання Уладзіміра Аксёнава.

Сёння "Інтэграл" уяўляе сабою магутнае прадпрыемства, якое аб'ядноўвае 6 заводаў і 4 дызайнер-цэнтры. Штат яго супрацоўнікаў складае 15 тысяч чалавек. У большасці сваёй гэта выпускнікі прафесійна-тэхнічнага каледжа. Уражвае і такая лічба. На прадпрыемстве працуе 31 лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. 70 працэнтаў прадукцыі, якая выпрацоўваецца, а гэта ў асноўным інтэгральныя схемы, экспартуецца ў розныя краіны свету. Якасць прадукцыі "Інтэграла" правяраецца на рэгулярных міжнародных аўдытах. Так, на нядаўнім аўдыце, які праводзіла вядомая японская фірма "Сейко", прадукцыя "Інтэграла" вытрымала патрабаванні міжнародных стандартаў.

Характэрна для гэтага прадпрыемства і тое, што яно цесна супрацоўнічае з навучальнай установай электронікі. Такія стасункі вызначаюцца і ў матэрыяльнай дапамозе каледжу, і ў карэкціроўцы вучэбных планаў і праграм. Прадстаўнікі прадпрыемства з'яўляюцца членамі экзаменацыйных і атэстацыйных камісій установы, удзельнічаюць у конкурсах і многіх мерапрыемствах.

Адным словам, каледж і прадпрыемства працуюць як адзіны зладжаны механізм.

Менавіта на гэтай аснове складвалася далейшая праграма сустрэчы супрацоўнікаў замежных дыпламатычных прадстаўніцтваў з работнікамі ПТК.

Мінскі прафесійна-тэхнічны каледж электронікі - гэта сучасная навучальная ўстанова, якая аб'ядноўвае адукацыйныя праграмы старэйшай ступені сярэдняй школы, тэхнічнага вучылішча і тэхнікума. Створаны тут комплекс адукацыйных блокаў і модуляў вучэбна-планавальнай дакументацыі забяспечвае такі ўзровень агульнапрафесійных ведаў, уменняў і навыкаў, якія спрыяюць павышэнню канкурэнтаздольнасці выпускніка ўстановы. Калектывам каледжа змадэліраваны нават яго сацыяльна значныя якасці. Сярод іх вылучаюцца актыўнасць, ініцыятыўнасць, творчасць, нацыянальная свядомасць, культура, эстэтыка, здаровы лад жыцця.

Гэта азначае, што ў каледжы навучальна-выхаваўчы працэс накіраваны на фарміраванне асобы навучэнца, на ўсебаковае развіццё.

Дырэктар навучальнай установы, спрактыкаваны кіраўнік Валерый Хасін пазнаёміў гасцей з канцэптуальнымі ідэямі, закладзенымі ў аснову педагагічнай сістэмы каледжа.

Тут кірунак узяты на педагагічныя праекты выкладчыцкага і навучэнскага саставу ўстановы, якія стымулююць творчую актыўнасць калектыву. Ужо запушчаны ў ход экалагічны праект, праект па правах чалавека, некалькі міжнародных праектаў. Была прадстаўлена абагульненая структура падрыхтоўкі кадраў у ПТК.

Дыпламаты азнаёміліся з вучэбна-вытворчай базай каледжа. Камп'ютэрныя класы былі прадстаўлены ў дзеянні.

Камфорту сустрэчы прыбавіў канцэрт мастацкай самадзейнасці, дзе навучэнцы з натхненнем дэманстравалі сваё майстэрства.

Беларуская мілагучная песня прыйшлася даспадобы замежным гасцям. Як і ўвогуле ўся дыпламатычная сустрэча... без пратакола.

Жывая, шчырая размова дыпламатаў з педагогамі горада, спадзяемся, будзе мець працяг у наступных узаемінах і супрацоўніцтве.

**Ала КЛЮЙКО.**

Восеньскі матыў.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.

Весткі з Клеччыны

## З ліцэя - у ВНУ

Сярод сёлетніх выпускнікоў - выпускнікоў першага выпуску новага стагоддзя і тысячагоддзя - 71 залаты медаліст; 30 працэнтаў з 385 выпускнікоў папоўнілі шэрагі навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў; амаль 35 працэнтаў сталі студэнтамі розных ВНУ краіны.

***

У раёне не засталося ніводнай пачатковай і базавай школы. Вучні наведваюць 23 сярэднія школы. Аддзел адукацыі, райвыканкам паклапаціліся пра тое, каб дзеці з аддаленых населеных пунктаў на заняткі і з заняткаў своечасова дастаўляліся аўтатранспартам.

У раёне такім чынам працуе сем спецыяльных рэйсаў.

***

У 18 з 23 сярэдніх школ на поўную стаўку працуюць медсёстры, у многіх школах адкрыты стаматалагічныя кабінеты.

Кіраўніцтва аддзела адукацыі, і найперш яго загадчыца Марыя Драбатовіч, праяўляюць пастаянны клопат пра фізічную загартоўку маладога пакалення.

Так, кожны вучань сярэдняй школы павінен выканаць 16-гадзінную праграму па плаванні. Заняткі ладзяцца ў ФАКу (фізкультурна-аздараўляльным комплексе), які дзейнічае ў райцэнтры ўжо 6 гадоў.

Вучняў з гарадскіх і сельскіх школ дастаўляюць сюды аўтобусамі. Акрамя плавання, там практыкуюцца заняткі па валейболу і баскетболу, якія перарастаюць у адпаведныя раённыя турніры.

***

Пры Заастравецкай школе-комплексе быў створаны клас, які апекаваўся БАТУ. У гэты клас паступіла 19 вучняў, у тым ліку з Клецка. Тыя, хто не меў сталага жылля, атрымалі інтэрнат. 18 выпускнікоў сталі студэнтамі БАТУ. У раёне працуе дзевяць ліцэйскіх класаў. Першы з іх арганізаваны 3 - 4 гады таму назад.

З таго часу пачалося і працягваецца плённае супрацоўніцтва сярэдніх школ з ВНУ краіны.

У той жа Заастравецкай школе-комплексе паявіўся ліцэйскі клас, выпускнікі якога наважыліся стаць студэнтамі Беларускай сельгасакадэміі.

Адначасова вырашаецца і некалькі істотных задач - паступлення выпускнікоў у ВНУ і папаўнення сельскіх гаспадарак кадрамі спецыялістаў. Для выпускнікоў і іх бацькоў здымаецца пытанне дарагога платнага рэпетытарства.

Чацвёрты навучальны год працуе ліцэйскі клас Сіняўскай сярэдняй школы. Тут атрымліваюць адукацыю і выхоўваюцца будучыя абаронцы Айчыны: з 18 вучняў выпуску новага тысячагоддзя 12 сталі курсантамі Ваеннай акадэміі. А ў гэтым навучальным годзе да супрацоўніцтва са школай далучыўся і Камандна-інжынерны інстытут МНС (Міністэрства надзвычайных сітуацый краіны).

Пры сярэдняй школе № 1 райцэнтра арганізаваны два ліцэйскія класы (у першым - 21 ліцэіст, а ў другім - 15). Яго выпускнікі наважыліся стаць студэнтамі Беларускай політэхнічнай акадэміі.

Адзін ліцэйскі клас (15 юнакоў) створаны ў сярэдняй школе № 2 пад эгідай Мінскага медыцынскага універсітэта, адзін ліцэйскі клас - пры сярэдняй школе № 3 пад эгідай Міжнароднага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта імя А.Сахарава.

Акрамя таго, у Клецку плённа і карпатліва працуе Цэнтр адораных дзяцей, у якім паглыбленую праграму асвойваюць амаль 300 старшакласнікаў.

Вучні атрымалі выдатную магчымасць, па сутнасці, бясплатнага рэпетытарства.

***

Варты ўвагі і пераймання вопыт даўняй і добра адладжанай сістэмы харчавання школьнікаў.

Найперш трэба сказаць, што яно бясплатнае для ўсіх вучняў без выключэння, як у гарадскіх, так і сельскіх школах.

Рацыянальнае харчаванне ўключае дэсерт у выглядзе натуральных сокаў, глазіраваных сыркоў і ёгуртаў вытворчасці мясцовага масларобчага камбіната.

**Алесь ВЕКА.**

Весткі з Мсціслаўшчыны

## Укараняецца новае

Тэсціраванне - добры метад дыягностыкі якасці ведаў. Крытэрыяльна-арыентаваныя тэсты па біялогіі, выдадзеныя выдавецтвам "Белы вецер" Мазырскага педуніверсітэта, набываюць настаўнікі біялогіі Мсціслаўскага раёна. Аўтарам брашуры "Тэматычныя кантрольныя заданні па біялогіі для 7-8 класаў" з'яўляецца былы настаўнік Андранаўскай сярэдняй школы Н.Н.Урушкін.

***

Курс "Мсціслаў. Мсціслаўшчына" з наступнага навучальнага года стане ў раёне рэгіянальным. Інавацыйная аўтарская праграма "Гісторыя Мсціслаўшчыны", распрацаваная настаўнікам гісторыі сярэдняй школы № 2 Мсціслава С.А.Пакладам, атрымала станоўчую ацэнку ў аддзеле інавацый Магілёўскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі і ўкараняецца ў школе. Як лічыць яе аўтар, гэта частка вялікай і цудоўнай работы па выхаванні любові да роднага краю. І не выпадкова старажытны Мсціслаў сёлета стаў цэнтральным месцам святкавання Дня беларускага пісьменства.

***

Дванаццаць педагагічных калектываў Мсціслаўскага раёна з 23 атрымалі магчымасць з улікам жадання вучняў і іх бацькоў выкарыстоўваць 10-бальную сістэму ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў. У большасці сваёй педагогі лічаць, што 10-бальная ацэначная шкала дазваляе атрымаць больш аб'ектыўную інфармацыю пра вынікі навучання школьнікаў, а новая ацэначная сістэма садзейнічае абнаўленню вядучых відаў кантролю паспяховасці вучняў. Выпрацоўцы такога разумення садзейнічала праведзеная работа з педагагічнымі кадрамі напярэдадні і падчас жнівеньскіх нарад. А для кіраўніцтва гэтых 11 школ на базе Мазолаўскай сярэдняй школы, якая ўдзельнічае ў эксперыментальнай апрабацыі 10-бальнай сістэмы ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў у 5-11 класах, быў праведзены семінар з паказам спецыфікі абнаўлення вядучых відаў кантролю паспяховасці вучняў у гэтай школе. На семінары падзяліліся сваімі першымі напрацоўкамі Ірына Генрыхаўна Падольхава, намеснік дырэктара школы, педагогі Раіса Сцяпанаўна Бялько, Раіса Фёдараўна Владыка, Галіна Сцяпанаўна Шалабода і іншыя.

**Святлана КІСЯЛЁВА,**
**загадчыца вучэбна-метадычнага кабінета аддзела адукацыі Мсціслаўскага райвыканкама.**

Нарады

## Выхаванне асобы будучага спецыяліста

***Стала традыцыяй выносіць на пасяджэнні Савета дырэктараў ССНУ Гомельскай вобласці актуальныя праблемы адукацыі і выхавання моладзі ў адпаведнасці з асноўнымі напрамкамі развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі. Апошняе такое пасяджэнне адбылося на базе Буда-Кашалёўскага аграрна-тэхнічнага каледжа.***

Буда-Кашалёўскі аграрна-тэхнічны каледж, на базе якога праходзіла пасяджэнне, - адна з сучасных ССНУ сельскагаспадарчага тыпу. За час існавання (заснаваны ў 1912 годзе) у ім падрыхтавана 15000 спецыялістаў. З 1991 года ў каледжы ўведзена і дзейнічае двухузроўневая сістэма падрыхтоўкі спецыялістаў з паглыбленай сярэдняй спецыяльнай адукацыяй у сістэме непарыўнай інтэгральнай адукацыі.

На пасяджэнні Савета дырэктараў прысутныя азнаёміліся з сістэмай работы па прафілактыцы правапарушэнняў у Буда-Кашалёўскім аграрна-тэхнічным каледжы, а таксама з адпаведным вопытам Палескага сельскагаспадарчага, Светлагорскага індустрыяльнага і Мазырскага політэхнічнага тэхнікумаў. Асноўнай задачай у выхаваўчай рабоце гэтых навучальных устаноў з'яўляецца выхаванне асобы будучага спецыяліста, добрага сем'яніна, грамадзяніна рэспублікі, патрыёта сваёй Радзімы. Выхаваўчыя мерапрыемствы арыентаваны таксама на важнейшыя падзеі жыцця краіны.

Навучэнцы Буда-Кашалёўскага аграрна-тэхнічнага каледжа (дырэктар А.М.Вярбіцкі) займаюцца ў спартыўных секцыях, бяруць удзел у духавым аркестры, аркестры народных інструментаў, драматычным гуртку, народным хоры, які, дарэчы, стаў прызёрам на абласным фестывалі харавога мастацтва сярод навучэнцаў ССНУ ў 2001 годзе. У інтэрнаце створаны музей карцін, намаляваных навучэнцамі каледжа.

У Палескім сельскагаспадарчым тэхнікуме (дырэктар А.М.Томчык) існуе маладзёжны цэнтр "Юнацтва", які працуе штодзённа. У 2001 годзе 90 працэнтаў навучэнцаў удзельнічалі ў рэалізацыі праекта ААН ЮНІСЕФ і грамадскага прэс-цэнтра беларускага Дома прэсы "Галасы маладых у СМІ за здаровы лад жыцця" і сталі пераможцамі праекта ў Беларусі. Больш чым 100 чалавек былі ўзнагароджаны дыпломамі і каштоўнымі падарункамі ААН ЮНІСЕФ.

У Светлагорскім індустрыяльным тэхнікуме (дырэктар С.Г.Фомчанка) на працягу шэрагу гадоў праводзяць дзень здароўя, дзень турыста; працуе школа добрых манер, літаратурная гасцёўня, тэатр мод, клуб вясёлых і знаходлівых, тэатр эстрадных мініяцюр, клуб рытмічнай гімнастыкі і г.д.

Педагогі шукаюць новыя формы і метады выхаваўчай работы, яны маюць вельмі шмат творчых задумак. Добра было б стварыць у сістэме сярэдняй прафесійнай адукацыі эксперыментальныя пляцоўкі па ўдасканаленні інавацыйных выхаваўчых тэхналогій. А таксама з мэтай удасканалення арганізацыі правядзення вольнага часу навучэнцаў запланаваць у бюджэце ССНУ артыкул на мэтавае фінансаванне маладзёжнага цэнтра (клуба).

Вынікі пасяджэння падвёў старшыня Савета дырэктараў М.І.Скрыннікаў, дырэктар Гомельскага дзяржаўнага дарожна-будаўнічага тэхнікума, які, дарэчы, узначальвае Савет ужо больш як 10 гадоў.

**Наталля БАГАЧОВА,**
**метадыст Савета дырэктараў ССНУ Гомельскай вобласці.**

## Да ведама членаў Грамадскага аб'яднання "Беларуская акадэмія адукацыі"

Паведамляем, што 28 лістапада бягучага года ў памяшканні Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка (аўд.482) у 14 гадзін адбудзецца навуковая сесія па праблеме: "Якасць адукацыі: тэорыя і практыка". На сесіі будуць абмеркаваны наступныя пытанні:

- якасць адукацыі: арганізацыя, пераемнасць, непарыўнасць і механізмы рэалізацыі;
- якасць педагагічнай адукацыі: айчынны і замежны вопыт;
- тэарэтыка-метадалагічныя праблемы якасці шматузроўневай сістэмы вышэйшай адукацыі;
- якасць і метадалагічнае забеспячэнне сацыяльна-гуманітарнай адукацыі;
- шматузроўневая сістэма падрыхтоўкі інжынерных кадраў;
- інавацыйныя адукацыйныя тэхналогіі, методыкі, метады, формы і сродкі ў сістэме павышэння якасці адукацыі;
- сістэма якасці вышэйшай тэхнічнай адукацыі: інтэграцыя адукацыйнай, навуковай і вытворчай дзейнасці;
- якасць прафесійнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь, метадалагічныя праблемы кіравання;
- праблемы пераходу да кіравання якасцю прафесійнай адукацыі на аснове адукацыйных стандартаў;
- інфармацыйныя тэхналогіі і якасць адукацыі;
- тэсціраванне як сродак кантролю якасці адукацыі;
- інтэграцыя навукі і навучальнага працэсу як фактар павышэння якасці адукацыі;
- удасканаленне выхаваўчай работы ва ўмовах рэфармавання сістэмы адукацыі.

**Прэзідыум Грамадскага аб'яднання**

Пісьмо з каментарыем

## "Лядовы палац" для настаўніка

*Паважаная рэдакцыя!*

*Звяртаецца да Вас са сваімі праблемамі Ваш пастаянны чытач з гарадскога пасёлка Лёзна Віцебскай вобласці Аляксей Іванавіч Чэпікаў. Некалькі слоў пра сябе. Працую настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе № 2 п.Лёзна. У 1975 годзе скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут, пастаянна працую ў Лёзненскім раёне, стаж работы - 25 гадоў, маю вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю. Жонка - настаўніца беларускай мовы сярэдняй школы № 2, стаж работы - 20 гадоў. У нас двое дзяцей-школьнікаў.*

*Мая сям'я пражывае ў доме, які належыць аддзелу адукацыі Лёзненскага райвыканкама. Дом патрабуе капітальнага рамонту. На працягу адзінаццаці гадоў абіваю парогі розных інстанцый: аддзела адукацыі, Лёзненскага райвыканкама, Віцебскага абласнога ўпраўлення адукацыі... Звяртаюся і ў вашу газету. Вынік, на жаль, адмоўны - сродкаў для рамонту няма.*

*Не буду гаварыць аб ролі настаўніка ў грамадстве, аб тым, колькі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй атрымала з нашай школы рэспубліка...*

*Вельмі хацелася б, каб хоць бы адну зіму ў маіх "харомах" пражылі чыноўнікі-бюракраты, але...*

**Аляксей ЧЭПІКАЎ.**

**Ад рэдакцыі.** Разам з лістом Аляксей Іванавіч даслаў некалькі дакументаў, якія пацвярджаюць, што дом сапраўды патрабуе капітальнага рамонту. Даслаў ён і копію адказу Віцебскага абласнога ўпраўлення адукацыі на запыт рэдакцыі "Настаўніцкай газеты", датаваны 17 лістапада 1997 года. У ім, у прыватнасці, паведамлялася:

"У выніку камісійнага абследавання ўстаноўлена, што дом А.І.Чэпікава патрабуе капітальнага рамонту. Складзены дэфектны акт, на аснове якога праведзены разлік неабходных будаўнічых матэрыялаў, кошт якіх у цэнах на 1.11.1997 г. складае 41 млн. рублёў. (Ад рэд. - недзе каля 1000 даляраў).

У цяперашні час гадавы бюджэт аддзела адукацыі па артыкуле 16 "Капітальны рамонт" складае 860 млн.рублёў, якія толькі на адну трэць пакрываюць аплату патрэбных рамонтных работ у адукацыйных установах раёна.

Таму ў бліжэйшы час адрамантаваць дом не ўяўляецца магчымым.

Разам з тым да канца года будзе адшукана магчымасць, і А.І.Чэпікаву будуць выдзелены будаўнічыя матэрыялы для падтрымальнага рамонту".

Вядома, мяркуючы па нядаўнім лісце ў рэдакцыю, пытанне да канца вырашана не было.

Зараз Аляксей Іванавіч прыслаў у рэдакцыю акт, падпісаны намеснікам старшыні Лёзненскага райвыканкама Г.Н.Якубоўскім, інжынерам УКСа А.І.Анціпенка, галоўным санітарным урачом Н.Г.Буравым, загадчыкам аддзела па рабоце з насельніцтвам райвыканкама В.Г.Маскаленка і інш. (акт датаваны сакавіком).

Устаноўлена:

1. Дзвярныя і аконныя блокі ў сувязі з працяглай эксплуатацыяй згнілі.

2. Падлога ў верандзе і часткова ў доме ў сувязі з працяканнем даху месцамі прыйшла ў поўную непрыдатнасць.

3. Драўляныя рубленыя сцены ад падмурка да вокнаў згнілі.

4. Падмурак бутавы, маюць месца скрыўленні цокаля, навылётныя дзіркі ў цокалі з разгалінаваннем на ўсю вышыню падмурка.

5. Веранда з дошак, дошкі пакарабачаны.

Высновы: 1-кватэрны жылы дом № 11"А" па вуліцы Фаміна г.п.Лёзна патрабуе капітальнага рамонту.

Такая вось гісторыя з настаўнікам і яго домам. Шкада, што за 25 гадоў сумленнай працы ён не заслужыў да сябе чалавечых адносін. Настаўніцкая зарплата, двое дзяцей - зразумела, на рамонт уласнымі сродкамі грошай ніколі не хопіць. Дык, можа, усё ж ёсць магчымасць знайсці ў раённым бюджэце хоць якую суму для дапамогі настаўніку?

**Ала ШАЎЦОВА.**

## Паважаныя чытачы!

Працягваецца падпіска на перыядычныя выданні на першае паўгоддзе 2002 года.

Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздруку".

Падпісны кошт на паўгоддзе для індывідуальных падпісчыкаў - 8400 рублёў; на квартал - 4200 рублёў; на месяц - 1400 рублёў.

Па ведамаснай падпісцы: на паўгоддзе - 22800 рублёў; на квартал - 11400 рублёў; на месяц - 3800 рублёў.

# Стадыён

*Фізкультурна-спартыўны выпуск "НГ"*



Бронзавым прызёрам чэмпіянату Еўропы па боксу сярод юніёраў у Сараева (Югаславія) стаў віцяблянін, выхаванец вучылішча алімпійскага рэзерву Дзмітрый Громаў (на здымку).

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

## Турнір на прызы лётчыка-касманаўта

***У горадзе над Бугам развіваецца такі від спорту як стральба з лука. Даволі прадстаўнічы міжнародны турнір адбыўся ў Брэсце на прызы нашага земляка-касманаўта Пятра Клімука сёлета.***

Важна адзначыць, што ў стральбе з лука ў нас ужо ёсць пэўныя спартыўныя дасягненні. Так, паспяхова выступіў на чэмпіянаце свету 17-гадовы Антон Прылепаў, які заняў пятае месца. Дарэчы, гэта лепшае выступленне нашых мужчын на сусветнай арэне за апошнія пятнаццаць гадоў. І невыпадкова А.Прылепаву прысвоена званне майстра спорту міжнароднага класа.

А "Гран-пры Еўропы" сярод дзяўчат заваявала Ганна Карасёва.

Спаборніцтвы міжнароднага турніра на прызы лётчыка-касманаўта, двойчы Героя Савецкага Саюза Пятра Іванавіча Клімука праводзяцца ўжо дваццаць першы раз. У гэтым турніры ўдзельнічалі, акрамя палякаў ды ўкраінцаў, і нашы спартсмены. У выніку ўпартай напружанай барацьбы сярод жанчын перамагла Кацярына Мулюк, якая на тры ачкі апярэдзіла спартсменку з Польшчы Катажыну Клята. А сярод мужчын трэцяе, прызавое месца атрымаў яшчэ адзін прадстаўнік Беларусі – Аляксандр Мартынаў.

**Пётр ЯРАВЫ.**

## Алімпійская "вёска" расце

***Атрымаў пашырэнне жылы комплекс "Алімпійскі", які размяшчаецца ў сталічным раёне "Вяснянка" - у эксплуатацыю здадзена яго другая чарга.***

Выканаўчы дырэктар Нацыянальнага алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь Яраслаў Барычка задаволены – 103 кватэры ўжо чакаюць сваіх жыльцоў. Цяпер няма ніводнага спартсмена, трэнера, якія б звярнуліся ў НАК з просьбай аб паляпшэнні жыллёвых умоў і атрымалі адмоўны адказ. Выключна ўсе заявы задаволены.

**Пётр НЕСЦЯРОВІЧ.**

## Крок у нацыянальную каманду

***Ужо адзінаццаты па ліку міжнародны юнацкі баскетбольны турнір на прызы алімпійскага чэмпіёна Івана Едэшкі адбыўся ў спартыўным комплексе Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі.***

На працягу тыдня аспрэчвалі званне мацнейшай шэсць каманд з Рэспублікі Беларусь, Украіны і Літвы. Праходзілі спаборніцтвы сярод юнакоў 1986 года нараджэння.

На сустрэчы з баскетбалістамі Кішынёва гаспадары атрымалі перамогу, але дасталася яна з цяжкасцю.

Важна адзначыць, што беларусы вялі ў ліку тры дзесяціхвілінныя перыяды. А ў заключным, чацвёртым, барацьба абвастрылася. Але мінскія студэнты перамаглі ў апошнія секунды з лікам 74:71.

Асабліва напружаная гульня была паміж камандамі Мінска і Вільнюса. Беларуская каманда (у якую ўваходзілі ў асноўным выхаванцы спартыўнай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву №10, вядомай як кузня талентаў у гэтым відзе спорту), на роўных змагалася з юнымі баскетбалістамі з Вільнюса – гэтая каманда з'яўляецца адной з лепшых у Літве. Таму то ў адзін, то ў другі бок мяняўся лік на табло – галоўную небяспеку для літоўцаў уяўляў лепшы гулец спаборніцтваў і пераможца конкурсу трохгадзінных кідкоў мінчанін Дзмітрый Акуліч. Але за кошт добра наладжаных камандных дзеянняў госці змаглі атрымаць перамогу (80:71), а мінчане аказаліся на другім месцы пры роўнасці ачкоў з гамяльчанамі па дадатковых паказчыках. Бронзавымі прызёрамі спаборніцтваў сталі юныя баскетбалісты Днепрапятроўска, якія, маючы вялікае жаданне прыняць удзел у гэтым прэстыжным турніры, на ўласных аўтамабілях, нягледзячы на вялікую адлегласць, прыехалі ў сталіцу Рэспублікі Беларусь. І не дарэмна – яны занялі трэцяе каманднае прызавое месца.

Па лепшай суме месц у рэспубліканскім заліку лідзіравалі баскетбалісты Беларусі, якія выйгралі ў літоўцаў і ўкраінцаў.

Спецыялісты па дзіцяча-юнацкаму баскетболу зазначылі, што такія турніры павінны праводзіцца часцей.

Юнакі будуць не толькі павышаць, але і ўдасканальваць свае навыкі, гуляючы і падтрымліваючы сувязі са сваімі аднагодкамі з розных дзяржаў.

Гэта – першы крок для маладых у нацыянальную каманду.

**Вільям АСТРЫНСКІ.**

## Усё вырашылі імгненні

***Як вядома, нядаўна ў Палацы Рэспублікі ў Мінску адбыўся чэмпіянат Еўропы па "хуткіх" шахматах і бліцу сярод жанчын. Аб спаборніцтвах па хуткіх шахматах ужо апавядалася ў "Настаўніцкай газеце" ў № 117 за 11 кастрычніка. А пра другі марафон-чэмпіянат Еўропы па бліцы мы і раскажам у гэтым матэрыяле.***

У гэтым відзе спорту кожнай з 44 удзельніц сярод жанчын неабходна было правесці па сорак спараных партый – у адным туры з адной і той жа саперніцай. Спартсменкі гулялі спачатку белымі, а затым – чорнымі фігурамі. Але што характэрна, некаторыя ўдзельніцы "хуткай" намінацыі чэмпіянату і ў бліцы выглядалі нядрэнна.

Так, у тройку прызёраў па выніках чэмпіянату па бліцы – дваццаць двайных тураў, пяць хвілін на партыю па гэтым раздзеле праграмы ўвайшлі ўжо знаёмыя чытачам шахматысткі – сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы па "хуткіх" шахматах Аляксандра Кастанюк, бронзавы "хуткі прызёр" Вікторыя Чмелітэ з Літвы, юная Таццяна Касінцава. На іх рахунку адпаведна 17,5, 15 і 14 ачкоў.

Асаблівай увагі заслугоўвае семнаццацігадовая Аляксандра Кастанюк. Яна самы малады грасмайстар Расіі. Ім яна стала ў 14 гадоў. І садзейнічалі гэтаму адпаведныя фактары. Трэнерам Аляксандры з пяці гадоў быў бацька Канстанцін Кастэнка, цікавы чалавек, масквіч (на спаборніцтвах па шахматах у Мінску ён таксама прысутнічаў). Калі ўзровень дачкі стаў вышэйшым за ягоны, пачалі наймаць кансультантаў-гросмайстраў. Вядома, на гэта патрабаваліся немалыя сродкі. Але мэты, як гавораць, іх апраўдваюць. Так, Саша зусім нядаўна цудоўна сыграла за зборную Расіі ў матчы з камандай Кітая, дзе яна атрымала 4 ачкі з 6, прайшоўшы турнір без паражэнняў, і выйграла ў чэмпіёнкі свету сярод дзяўчат да дваццаці гадоў Янь Юань. Кастанюк будзе ўдзельнічаць і ў чэмпіянаце свету ў Маскве, які мае адбыцца неўзабаве. Дастаткова паспяхова выступае Аляксандра і ў мужчынскіх спаборніцтвах.

Больш таго, у свае юныя гады Аляксандра Кастанюк мае самы высокі рэйтынг – 2445. Гэтым тлумачыцца тое, што яна заваявала званні міжнароднага гросмайстра ў жаночых спаборніцтвах і міжнароднага майстра – у мужчынскіх.

Што датычыць Вікторыі Чмелітэ, яна наогул мае найвышэйшы рэйтынг сярод удзельніц чэмпіянату Еўропы. Так, на апошняй шахматнай Алімпіядзе ў Стамбуле яна паказала найлепшы вынік. Паяўленне ж юных сясцёр Надзеі і Таццяны Касінцавых (яны самі з Архангельска, які ніколі не лічыўся шахматнай кропкай на спартыўнай карце Расіі) гаворыць аб пашырэнні геаграфіі шахмат.

Сярод беларусак лепшы вынік на бліцы паказала брэстаўчанка Настасся Волчак, якая заняла 14-е месца. Па выніках абодвух турніраў яна атрымала ў падарунак тэлевізар "Віцязь". За ўсю гісторыю шахмат наогул гэты чэмпіянат па кваліфікацыйным складзе стаў адным з мацнейшых – у ім удзельнічалі 23 гросмайстры.

**Пётр ШУБЯНОК.**

## Малайцы, гімнасткі!

***Беларускія юныя спартсменкі ўдала выступілі на чэмпіянаце свету па мастацкай гімнастыцы, які адбыўся ў Мадрыдзе.***

У ім удзельнічалі 155 дзяўчат, якія прадстаўлялі 45 федэрацый. 23-гадовая славачка Івана Матолікава была самай старэйшай сярод усіх удзельніц, а балгарка Элізабэт Пейсіёва – самай юнай. Іна Жукава – прадстаўніца нашай краіны – аказалася старэйшай за Элізабэт на тры месяцы і 11 дзён. Грачанка Дэметра Сержыу была вышэй за ўсіх – 187 см. Гімнастка з Латвіі Вольга Гусарчук – 148 см – у параўнанні з ёй выглядала "дзюймовачкай". Сярэдні ўзрост спартсменак – 16,8 года.

Пераможцы і прызёры сярод каманд-удзельніц чэмпіянату ў шматбор'і, а таксама ў індывідуальных практыкаваннях вызначыліся ў першыя два дні спаборніцтваў. Паміж зборнымі Расіі, Украіны, Беларусі і Балгарыі ішла жорсткая, напружаная барацьба за першынство. Дэбютанткі турніру гэтага ўзроўню – нашы юныя спартсменкі Алена Ткачэнка, Элона Асядоўская, Іна Жукава, Наталля Пальчэўская – аспрэчвалі ў вострай канкурэнцыі са сваімі саперніцамі гонар Рэспублікі Беларусь.

Пасля двух відаў спаборніцтваў беларуская каманда знаходзілася на другім месцы турнірнай табліцы, уступаючы толькі расіянкам. Але пасля прыкрай памылкі Элоны Асядоўскай з мячом, якая не паспела яшчэ поўнасцю паправіцца пасля цяжкай траўмы, беларускі аказаліся на трэцім месцы. Для нашых юных навічкоў "бронзавыя" медалі – таксама нядрэнны поспех. Сваё абяцанне вярнуцца на Радзіму з узнагародамі яны стрымалі ў камандных спаборніцтвах.

Лідзіравала зборная Расіі. Удзельніцы гэтай каманды аказаліся мацнейшымі і ў асабістым заліку. Абсалютнай чэмпіёнкай свету стала расіянка Аліна Кабаева. Ірына Чашчына – яе сяброўка па камандзе – "сярэбраны" прызёр, а ўкраінка Тамара Ерафеева – бронзавы. Яна аказалася мацнейшай за балгарку Сімону Пейчаву ў індывідуальных спаборніцтвах.

Але асноўная наша надзея – Алена Ткачэнка, чэмпіёнка Беларусі-2001, якая ў Сусветных студэнцкіх гульнях у Пекіне нядаўна заваявала пяць медалёў (тры сярэбраныя і два бронзавыя), – на гэты раз у прызёры не трапіла і медаля, як разлічвалі яе трэнеры, не атрымала. У шматбор'і Алена толькі ў шостым радку зверху, а ў практыкаваннях з булавамі – на чацвёртым месцы. Яна была вельмі блізка да медаля ў гэтым відзе спорту, але не мела форы, як Сімона Пейчава: элементам яе праграмы, як і іншых нашых удзельніц (іх вынік яшчэ ніжэйшы), не прысвоілі (як балгарскім спартсменкам) арыгінальнасць – у балгарак надбаўка за арыгінальнасць у кожным відзе на ўсю каманду склала 1,3 бала.

Дарэчы, гімнастка, якая мае за элемент запаветную арыгінальнасць, ужо перад выхадам на памост валодае форай у адзін бал. Калі яго паўтарыць у кожным з чатырох відаў – атрымліваецца перавага ў чатыры балы. А ўлічваючы, што саперніцтва звычайна ідзе на дзесятыя долі, дык каментарый, як гавораць, залішні. Характэрна, што ў зборных Расіі і Украіны арыгінальнасць прысвоена ўсім гімнасткам, нават юніёркам. Таму з прадстаўніцамі Расіі і Украіны, у тым ліку і Балгарыі, спаборнічаць было няпроста.

Але ж ці не малайцы нашы дзяўчаты, калі нават у такой сітуацыі ўсё роўна выйгралі ў каманды Балгарыі?

**Пётр ПАЛЕСКІ.**



Колькі радасці ў вачах дванаццацігадовых Вольгі Ігнацюк і Машы Янчук, якія трэніруюцца ў секцыі дзюдо Цэнтральнага дома маладзёжнай творчасці Брэста! Яны занялі прызавыя месцы на абласным першынстве, што нядаўна праходзіла ў горадзе.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**



## Мацнейшыя сярод моцных

**24 медалі заваявала зборная Рэспублікі Беларусь па каратэ-до на чэмпіянаце Еўропы ў Тбілісі**

***Амаль пяцьсот мацнейшых спартсменаў - чэмпіёнаў 14 краін - сабраліся ў Тбілісі на першынстве Еўропы па каратэ-до. 24 медалі рознай вартасці заваявалі беларускія спартсмены. З 16 атлетаў дзесяць прадстаўлялі Беларускую дзяржаўную політэхнічную акадэмію.***

Сапраўднай гераіняй чэмпіянату стала выкладчык кафедры фізвыхавання і спорту БДПА, заслужаны майстар спорту Беларусі Святлана Вількіна. На яе рахунку чатыры залатыя медалі – больш за ўсё на гэтым турніры. Цікава, што грузінская газета "Сакартвелас Рэспубліка" – орган урада гэтай краіны, падводзячы вынікі спаборніцтва, выйшла з загалоўкам "Беларуская зорка каратэ пакарыла сэрцы грузінскіх мужчын" і змясціла дзве вялікія фатаграфіі Святланы.

Званняў чэмпіёнаў Еўропы таксама ўдастоены студэнтка аўтатрактарнага факультэта акадэміі Юлія Навашынская – двойчы, Вольга Вількіна з факультэта маркетынгу, менеджменту і прадпрымальніцтва і яе сяброўка па ФММП Таццяна Шэўчык, будучы інжынер-прыборабудаўнік Юрый Разанаў і Гардзей Снегіроў (клуб "Фудасін"). Сярэбранымі медалямі ўзнагароджаны студэнты Вольга Вількіна (двума), Андрэй Назаранка (факультэт інфармацыйных тэхналогій і робататэхнікі), Мікалай Руцкін і Анастасія Рабава (ФММП), Юрый Разанаў (ПБФ), Гардзей Снегіроў (двума) і Аляксандр Ганапольскі (абое – мінскі клуб "Фудасін"), Юлія Кацельнікава (бабруйскі клуб "Хейан"), настаўніца фізкультуры Смалявіцкай сярэдняй школы Таццяна Катвіцкая. А "бронза" дасталася студэнту Мікалаю Руцкіну, прадстаўнікам пінскага спартклуба "Сайва" Дзянісу Глінскаму і Івану Слесарчуку.

Акрамя гучных поспехаў на татамі, беларускія каратысты надзейна праявілі сябе ў суддзействе. Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь, дацэнт кафедры фізвыхавання і спорту БДПА Андрэй Вількін паспяхова выконваў абавязкі галоўнага сакратара чэмпіянату Еўропы. А студэнты акадэміі Юрый Разанаў, Кірыл Кірылаў і Андрэй Назаранка працавалі вуглавымі суддзямі.

**Васіль ПРАКОП'ЕЎ.**

НА ЗДЫМКУ: галоўны інструктар Сусветнай федэрацыі шатакан каратэ-до Хітошы Касуя і міністр спорту Грузіі Іраклій Медзмарыяшвілі пасля ўзнагароджання беларускіх каратыстаў. На прыступках п'едэстала гонару – Святлана і Вольга Вількіны, Юлія Навашынская.

**Фота аўтара.**

## Юная чэмпіёнка заваёўвае кантыненты

***17 чэрвеня 2000 года ў спартыўным выпуску "Настаўніцкай газеты" "Стадыён" шла гаворка аб спартыўных дасягненнях юнай тэнісісткі, кандыдата ў майстры спорту Вольгі Гаварцовай, 1988 года нараджэння, якой тады не было яшчэ і дванаццаці гадоў.***

З таго часу ў яе жыцці адбыліся пэўныя змены. Вольга вучыцца цяпер у 8 "Б" класе Рэспубліканскага вучылішча алімпійскага рэзерву Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь. Спачатку яна пераступіла парог сярэдняй школы №3 Пінска, дзе і займалася на працягу некалькіх гадоў, потым у школе № 35 Віцебска і затым ў 94 Мінска. Цяпер гэтай няўрымслівай юнай спартсменцы мінуў трынаццаты год. Яна з'яўляецца неаднаразовай абсалютнай чэмпіёнкай краіны па гэтым відзе спорту сярод дзяўчынак 1987 года нараджэння, паспяхова выступала ў шэрагу дзяржаў свету, у тым ліку і ў Амерыцы.

Нядаўна мы зноў сустрэліся з ёю і папрасілі яе адказаць на некалькі пытанняў.

**- Калі памятаеш, Вольга, апошняя твая перамога на VIII Рэспубліканскіх спартыўных гульнях па тэнісу, якія праходзілі ў 2000 годзе ў Віцебску, таксама асвятляліся на старонках нашай газеты. Скажы, калі ласка, колькі турніраў ты выйграла з таго часу?**

– З мінулага года я ўдзельнічала больш чым у дваццаці спаборніцтвах. Лідзіравала 9 разоў на розных міжнародных турнірах у адзіночных і парных разрадах. Гэта без уліку чэмпіянатаў, якія праводзіліся ў нас – іх я таксама неаднойчы выйгравала.

Я перамагла на зімовым чэмпіянаце Беларусі сярод дзяўчынак 1987 года нараджэння (у адзіночным і парным разрадах), а ў маі 2001 г. зноў стала абсалютнай чэмпіёнкай сярод чатырнаццацігадовых.



**- Раскажы, калі ласка, пра ўдзел у чэмпіянатах Еўропы сярод дзяўчынак твайго ўзросту. Чым памятныя для цябе гэтыя спаборніцтвы?**

– На камандным зімовым чэмпіянаце Еўропы-2001 сярод дзяўчынак, старэйшых за мяне на адзін год, зборная нашай краіны трапіла ў папярэднюю групу з сямі каманд, якую ўзначальвала Вялікабрытанія – матчы ж адбываліся ў Швецыі. Пры гэтым дзве лепшыя з іх выйшлі ў фінал.

Мы разам з сяброўкамі па зборнай Вольгай Бацула і Настассяй Агейчык прыбылі ў Швецыю позным вечарам. А раніцай ужо адбыліся спаборніцтвы са зборнай Францыі, у час якіх былі праведзены дзве адзіночныя сустрэчы і адна парная. Спачатку нам не пашанцавала. Вольга Бацула – другі нумар – свой паядынак прайграла. Таму, калі гаварыць шчыра, у нашу перамогу амаль ніхто не верыў: французская каманда мела больш шанцаў. Францужанкі прыехалі на дзень раней за нас. Да нашага прыезду яны паспелі адпачыць і падрыхтавацца да спаборніцтваў, загадзя азнаёміўшыся са шведскімі кортамі. Але я добра настроілася на матч, хаця і вельмі хвалявалася, бо ўпершыню абараняла гонар сваёй Радзімы. І мяне чакала ўдача: лік быў 6:1, 6:3. Гэта быў адзін з лепшых паядынкаў у маім жыцці. Да такога павароту падзей францужанкі аказаліся не гатовымі, страцілі ўсякую надзею на перамогу і ўступілі нам з Вольгай Бацула і парную сустрэчу. Мы выйгралі з агульным вынікам матча Беларусь – Францыя – 2:1.

Затым паспяхова адолелі і зборную Даніі – 3:0. Асабіста я абыграла чэмпіёнку гэтай краіны 1987 года нараджэння з сухім лікам 6:0, 6:0, хаця яна мела больш высокі рэйтынг за мяне.

Фінал зімовага чэмпіянату Еўропы адбываўся ў галандскім горадзе Ротэрдам. На жаль, напярэдадні яго я зусім кепска сябе адчувала – была сур'ёзна хворай. Гэта, безумоўна, і аказала негатыўнае ўздзеянне на выніку маёй сустрэчы з моцнай тэнісісткай з Югаславіі, якая мае трэці нумар сусветнага рэйтынгу сярод чатырнаццацігадовых. Ёй я і ўступіла ва ўпартай, напружанай барацьбе з невялікай перавагай у яе карысць. Вядома, гэта не магло не сказацца і на агульнакамандным заліку ў фінальнай барацьбе са зборнай Югаславіі.

**- А як прайшоў летні асабісты чэмпіянат Еўропы? І як ты выступіла ў ім?**

– Ён адбыўся сярод дзяўчынак 1988 года нараджэння ў ліпені 2001 года ў італьянскім горадзе Сан-Рэма. Сумесна са мной прадстаўляла Беларусь дванаццацігадовая Віка Азаранка – сярэбраны прызёр летняга юнацкага першынства краіны-2001 па тэнісу.

Але цяжкасці былі ў тым, што спаборніцтвы адбываліся не ў самы лепшы для нас час – яны праходзілі днём у трыццаціградусную спёку пры вялікай вільготнасці паветра. У іх былі прадстаўлены тыя юныя спартсменкі, якія на чэмпіянатах у сваіх краінах занялі першыя і другія месцы, як і мы з Вікай. Усяго за права быць першымі змагаліся каля 80 дзяўчынак.

У першым жа матчы, згодна з жараб'ёўкай, сустрэча адбылася з іспанскай тэнісісткай, працягваючыся амаль тры гадзіны. Сітуацыя ўскладнялася тым, што спёка даходзіла да +38ºС. У трох сетах я ўсё ж перамагла. А ўсяго на гэтым чэмпіянаце я атрымала чатыры перамогі над такімі моцнымі саперніцамі як прадстаўніцы Італіі, Югаславіі, Славакіі. У выніку сярод дзяўчынак 1988 года нараджэння і маладзей я заняла трэцяе прызавое месца і атрымала памятны медаль.

**- А што ты можаш расказаць пра сваю першую перамогу за межамі СНД?**

– Гэта адбылося мінулым летам у балгарскім курортным гарадку "Русалка", куды мне ўпершыню давялося ляцець самалётам з аэрапорта "Мінск-2". У фінале ў мяне быў вельмі цяжкі паядынак з югаслаўскай спартсменкай, які я выйграла і стала пераможцай турніру. Выступала я і ў парным разрадзе, дзе мы з тэнісісткай з Мальты сталі сярэбранымі прызёрамі.

**- Хто твае самыя сур'ёзныя саперніцы? З якой яны краіны?**

– Напэўна, з Румыніі. З румынкамі мне гуляць чамусьці надта складана. Вельмі крыўдна было ўступаць, калі заставаўся толькі адзін крок да заканчэння фіналу ў Германіі ў час турніру BMW. Але і прызавое месца – нядрэнна, бо ўдзельнічалі амаль 150 дзяўчынак з усёй Еўропы.

Апошняе пытанне, якое мы задалі самай юнай спартыўнай "зорцы" Вользе Гаварцовай, было, вядома, пра планы на бліжэйшую будучыню.

Вольга коратка і дакладна адказала:

– Стаць першай у сусветнай класіфікацыі сярод чатырнаццацігадовых. І быць мацнейшай за Наталлю Звераву або Вольгу Барабаншчыкаву.

Пажадаем жа ёй новых яркіх перамог на сусветных тэнісных кортах!

**Гутарыў Пётр ШУБЯНОК.**

